# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 21 (795) ГОД XVI БЕЛАСТОК 23 МАЯ 1971 г. ЦАНА 60 гр.




## ПАСТАНОВА СТВАРЫЛА ЎМОВЫ

Нядаўна зала павятовай рады ў Гайнаўцы была месцам сустрэчы прадстаўнікоў сельскай гаспадаркі.

Сабраліся амаль усе сакратары вясковых партыйных арганізацый, а разам з імі і солтысы.

Вёў нараду I сакратар павятовага камітэта партыі Аляксей Лазоўскі. Удзельнічалі кіраўнікі аддзелаў Прэзідыума павятовай рады і ўстаноў, якія абслугоўваюць сельскую гаспадарку.

Даклад аб актуальных заданнях сельскай гаспадаркі зрабіў старшыня Прэзідыума павятовай рады Мікалай Самоцік. Дакладчык прыгадаў, колькі і чаго ёсць у сельскай гаспадарцы Гайнаўскага павета і колькі магло б ці павінна быць, паінфармаваў, што даюць вёсцы апошнія рашэнні ўрада ў справе развіцця жывёлагадоўлі, адзначыў, што ў дзейнасці ў галіне развіцця сельскай гаспадаркі і гайнаўскай вёскі ёсць ужо немалыя дасягненні.

Асабліва павялічана была матэрыяльная і тэхнічная база сельскай гаспадаркі. За апошнія 5 гадоў было меліяравана 6200 гектараўворнай зямлі і 9700 га зялёных угоддзяў. Была зроблена камасацыя на 26 тыс. гектараў і цяпер вядзецца камасацыя на 15,5 тыс. га. Электрыфікавана 86% вясковых гаспадарак, зазначыўся прагрэс у галіне механізацыі. Цяпер працуе 236 трактарных камплектаў і 8 міжгуртковых машынных баз. Пашырана сельскагаспадарчае школьніцтва, сяляне пабудавалі 2283 жылыя дамы і гаспадарчыя будынкі, падвоілася колькасць выкарыстоўваемых мінеральных угнаенняў. Але аднaчасова, як вынікае са статыстычнага гадавіка павета, ураджай збожжа, бульбы ў Гайнаўскім павеце ніжэйшы ад сярэдняга ў ваяводстве, пагалоўе кароў на 100 га — таксама, скупка збожжа і мяса — таксама. Больш таго, ёсць такія грамады, дзе пагалоўе жывёлы ніжэйшае, чым 5 гадоў назад.

На трыбуну ўвайшоў пажылы чалавек, селянін з Курашава Мікалай Чыквін, сакратар партарганізацыі ў сваёй вёсцы, і расказаў аб партыйным сходзе, які адбыўся ў іх напярэдадні гэтай нарады на гэтую ж тэму.

Працяг на стар.4



*«У мяне ад дзіцяці любоў да песні» — Надзя Ярмоліч з Пянькоў — лаўрэат спецыяльнай узнагароды «Нівы» ў конкурсе «Беларуская песня — 1971». Чытайце на стар. 3 «У Пянькі вярнулася вясна».*

## БГКТ ХРОНІКА

■ З нагоды першамайскіх урачыстасцей гарадоцкі жаночы хор БГКТ даў два канцэрты на акадэміях у Нарве і Гарадку.

■ Гайнаўскі аддзел БГКТ супольна з грамадскімі ўладамі і арганізацыямі (28 красавіка) ў Трасцяніцы арганізаваў акадэмію, прысвечаную Першамаю. Пасля акадэміі дэманстраваўся савецкі фільм «Трайная праверка».

■ Галоўнымі пунктамі пасяджэння прэзідыума сямяціцкага аддзела БГКТ (адбылося 6.V.) былі: 1) падрыхтоўка ўрачыстага пленарнага пасяджэння аддзела, прысвечанага 15-ай гадавіне БГКТ, 2) справы, звязаныя з арганізацыяй фэстыну.

■ 7-га мая ў пасяджэнні прэзідыума гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку прынялі ўдзел прадстаўнікі аддзела культуры гарадской рады нарадовай у Беластоку, гарадскога праўлення ЗМС і пажарнай каманды. Абмяркоўваліся справы арганізавання 20-га чэрвеня ў Беластоку ў парку фэстыну БГКТ. Другім пунктам парадку дня былі справы, звязаныя са склікканнем на 22-га мая пленарнага пасяджэння аддзела з нагоды 15-ай гадавіны БГКТ.

■ 9-га мая гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку прыняў удзел у кніжным кірмашы. Дырэкцыя Дому кніжкі падрыхтавала спецыяльны пункт з кніжнымі рэгаламі.

■ 9-га мая сакратар беластоцкага (павятовага) аддзела БГКТ Валя Філіпюк была на сходзе моладзі ў Старой Луплянцы, на якім расказала аб ролі і заданнях Беларускага таварыства. 18 асоб выразіла ахвоту ўступіць у рады БГКТ і ўсе яны падпісалі дэкларацыі, а пасля выбралі праўленне гуртка: Аляксандр Гавенчык — старшыня, Марыся Чабан — сакратар і Ян Грыка — скарбнік.

■ Сямяціцкі аддзел БГКТ 9-га мая прыняў удзел у агульнапавятовай урачыстасці, прысвечанай 26-ай гадавіне перамогі над нямецкім фашызмам. У Мілейчыцах адбыўся мітынг, а пасля ўскладанне вянкоў на могілках савецкіх салдат. У мастацкай частцы выступіў жаночы харавы калектыў з Гарадка. (мх)

## НАРАДА ЦЭНТРАЛЬНАГА АКТЫВУ БГКТ

**РЫХТУЕМСЯ ДА VII З'ЕЗДУ**

5 мая г.г. ГП БГКТ арганізавала нараду цэнтральнага актыву, прысвечаную справаздачна-выбарнай кампаніі і бягучым заданням. Апрача членаў Прэзідыума ГП, старшынь аддзелаў і рэвізійных камісій, працаўнікоў ГП і рэдакцыі «Нівы», удзельнічалі ў нарадзе старшы інспектар грамадска-адміністрацыйнага дэпартамента Міністэрства унутраных спраў Тадэуш Шынкоўскі, намеснік кіраўніка УСВ ВРН Гальяш Федаровіч і кіраўнік грамадскага аддзела УСВ Мікалай Куц. Вёў нараду старшыня ГП М. Хмялеўскі.

Інфармацыю аб заданнях у справаздачна-выбарнай кампаніі зрабіў сакратар ГП Янка Зенюк. У пачатку свайго выступлення звярнуў ён увагу, што наша кампанія будзе адбывацца ў час вялікай актывізацыі грамадства, звязанай з падрыхтоўкай да з'езда ПАРП і пераняссеннем у масы яго пастаноў. Гэтыя пастановы павінны знайсці сваё адлюстраванне таксама на сходах і канферэнцыях БГКТ. Трэба нам паказваць эканамічны і культурны, матэрыяльны і духовы рост асяроддзя, шырока папулярызаваць 15-гадовыя дасягненні БГКТ. — Факт існавання і дзейнасці нашага таварыства, — падкрэсліў сакратар ГП, — з'яўляецца жывой ілюстрацыяй належнага ажыццяўлення ленінскай нацыянальнай палітыкі, якую праводзяць наша партыя і ўрад. Дзякуючы гэтай палітыцы, беларуская нацыянальная меншасць мае поўныя магчымасці культывавання сваіх прагрэсіўных культурных традыцый.

Сходы і справаздачна - выбарныя канферэнцыі павінны стаць сур'ёзным стымулам да актывізацыі звенняў таварыства, да арганізацыйнага ўмацавання, удасканалення праграмавання, выбару форм і сродкаў у працы. Каб наша кампанія выканала свае заданні, павінна яна праходзіць у атмасферы свабоднай дыскусіі і талковай крытыкі. Дазволіць гэта нам перамагчы дагэтуляшнія недахопы і калегіяльна апрацаваць праграму дзейнасці на наступную кадэнцыю.

Неабходна звярнуць большую ўвагу на адпаведны падбор кандыдатаў да ўлад БГКТ. Датычыць гэта ўсіх звенняў. Ад аддaнасці і палітычнай спеласці асноўнага нашага актыву будзе ў значнай ступені залежаць ажыццяўленне статутовых задач таварыства. У праўленні трэба выбіраць людзей аўтарытэтных, якія разумеюць ролю і задачы таварыства, актыўных у грамадскай працы і блізкіх нам у ідэалагічных поглядах. Рознага роду несумленныя людзі не павінны трапіць ва ўлады БГКТ.

Далей сакратар ГП падаў тэрміны правядзення справаздачна-выбарнай кампаніі, зацверджаныя Прэзідыумам ГП. I так, справаздачна-выбарныя сходы ў гуртках адбудуцца ад I кастрычніка да 31 снежня 1971 г. На іх, між іншым, будуць уручаны новыя членскія білеты. Канферэнцыі аддзелаў вызначаны на перыяд ад 15 студзеня да 30 красавіка 1972 г. VII з'езд БГКТ палунецца правесці ў верасні 1972 г.

У справе правядзення справаздачна-выбарнай кампаніі Прэзідыум ГП БГКТ апрацаваў дакладную інструкцыю, якую атрымае актыў. выдзелены для падрыхтоўкі і правядзення кампаніі. Між іншым, прадбачваецца ў ёй правядзенне падрыхтоўчых сходаў, на якіх упарадкуюцца ўсе арганізацыйныя справы. Ацэнкай спраздачна-выбарнай кампаніі зоймуцца аддзелы. Яны таксама павінны даць адказ на ўсе пытанні, якія ўзнікнуць у гуртках. Даклады на канферэнцыях павінны быць справаздачна-праграмнымі.

Другую інфармацыю — аб конкурсах 15-годдзя зрабіў кіраўнік культурнага аддзела ГП БГКТ Сяргей Лукашук.

(Працяг на стар. 4)

Пачатак на стар. 1

## ПАСТАНОВА СТВАРЫЛА ЎМОВЫ

Ён расказваў, як шукалі магчымасці павелічэння жывёлагадоўлі ў вёсцы і як дайшлі да вываду, што ў гэтым годзе могуць павялічыць пагалоўе кароў і свіней на 15%. Гаварыў свабодна і цікава. Усе ўважліва слухалі, калі прамоўца гаварыў аб неабходных умовах для павялічэння жывёлагадоўлі ў Курашаве.

— Па-першае, патрэбны нам добрыя мяшанкі канцэнтраваных кармоў і хочам мець іх больш. Свінні не ашукаеш! Вядома, можа з'есці і тое, чым цяпер завалены склады ГС, але павінна атрымаць кармоў значна больш. Толькі хто за гэта заплаціць? Па-другое, трэба пачаць шанаваць найбольшы рэзерв сельскай гаспадаркі, рэзерв, які не патрабуе капіталаўкладанняў, — час селяніна. Галоўнае, каб усе зразумелі тую праўду, што не селянін павінен служыць розным установам і пунктам паслуг, а наадварот. Па-трэцяе, хачу яшчэ раз прыпомніць аб неабходнасці ўпрасціць абмен зямлі паміж сялянамі. Сяляне лёгка дагаворацца, памяняюцца, маюць поле бліжэй хаты без ніякіх коштаў, а потым аказваецца, што зрабілі нелегальна. Пры такой структуры нашых гаспадарак, хочам мы гэтага ці не, мы вымушаны быць іх нявольнікамі, а нашыя дзеці ад іх уцякаюць. Ці так цяжка зразумець старую, як свет, праўду, што поле за клуняй дае падвойны ўраджай?!

Яшчэ не сціхлі апладысменты, а на трыбуне стаў ужо Ян Каліноўскі — селянін з Тарнопаля. Ён таксама выразіў задавальненне з прынятай пастановы, але адразу ж падкрэсліў, што самі пастановы яшчэ нічога не зменяць, яны ствараюць толькі магчымасці. Ці гэтыя магчымасці будуць выкарыстаны?

— Гэта залежыць ужо ад нас, сялян, ад тых, што абавязаны нам дапамагаць. Не абяцаем шмат, справа не ў абяцанках, давайце падумаем над тым, што рабіць, каб выкарыстаць максімальна новыя магчымасці.

Сакратар партарганізацыі з Тарнопаля правёў вельмі цікавы эканамічны падлік у гадоўлі свіней.

— Каб выгадаваць парсюка, — гаварыў, — селяніну трэба 10 цэнтнераў бульбы, цэнтнер мяшанкі і цэнтнер збожжа, трохі малака і, вядома, парася. Парася каштуе 400 зл., бульба — 1000 зл., мяшанка і збожжа — 800 зл., трохі малака — 200 зл. Усяго 2400 зл., гэта якраз столькі, колькі атрымліваюць за парсюка.

Разышліся апладысменты. Але Каліноўскі не даўся збіць з панталыку.

— Таварышы, пачакайце з апладысментамі, я яшчэ хачу даказаць, што гадоўля свіней аплачваецца, толькі не такая традыцыйная. Калі на працягу лета карміць свіней зялёнкай і сыроваткай і калі збіраем высокі ўраджай бульбы, тады на 1 кг прыросту ідзе кармоў не за 20, а за 10 зл. Я так раблю і не наракаю на нерэнтоўнасць. Думаю, што нашыя заатэхнікі павінны арганізаваць у кожнай вёсцы па 2—3 прыкладныя гаспадаркі, няхай іншыя прыглядаюцца і вучацца.

Мікалай Іванюк з Соцаў пачаў з таго, што можа зрабіць партыйная арганізацыя на вёсцы для жывёлагадоўлі. А можа зрабіць шмат. Некалькі гадоў назад яго арганізацыя вырашыла закласці люцэрнікі. Спачатку засеялі ўчасткі ў 25 араў члены гуртка, а сёння ўсе ў вёсцы маюць люцэрнікі. Добрыя люцэрнікі можна касіць пяць разоў у год. Аднак люцэрна — гэта яшчэ не ўсё, калі ёсць лугі і ўгнаенні. Зноў усе члены партарганізацыі абавязаліся высока ўгноіць свае лугі — да 250 кг NPK на 1 га. Разам з павелічэннем колькасці ўгнаенняў на лугі, павялічваецца ўраджай сена. У апошнія гады збіраюць па 120 ц з гектара. Вось выясненне загадкі.

Сакратар партыйнай арганізацыі з Соцаў на сямігектаровай гаспадарцы трымае 5 кароў, некалькі цялят, дзве свінаматкі, 14 парсюкоў, 11 парасят. Для яго гэта звычайная рэч. Іменна так ён разумее лозунг «член партыі на вёсцы — перадавы селянін».

Рыгор Гапунік — селянін з Грушкі — сакратар партарганізацыі. Гэта адна з лепшых арганізацый ПАРП у павеце. Належаць да яе 30% усіх сялян у вёсцы, і ўсе дасягнулі лепшых прадукцыйных вынікаў, многія лічацца перадавікамі.

— Сяляне вырашылі выгадаваць у гэтым годзе 22 парсюкі і павялічыць колькасць кароў да 16. Не ведаю, ці нам гэта ўдасца, але спрабуем. Хочам механізаваць працу ў хлявах і кароўніках. У нас немагчыма павялічваць колькасць жывёлы без паляпшэння арганізацыі працы ў жывёлагадоўлі, без абсталявання паравікоў у хлявах, пагрузчыкаў каранеплодаў, давядзення вады, транспарцёраў для кармоў. А гэтага абсталявання ўсё яшчэ няма на рынку. Мы пачалі размову з дырэкцыяй ПОМ, якая хоча наставіцца на такія паслугі. Калі гэта ўдасца, мы зможам прадаваць напэўна больш мяса і малака. Важна яшчэ, каб наша жывёла не вандравала так доўга па краіне пасля яе продажу. Гэтыя «турыстычныя экскурсіі» ў Беласток і прывозка каўбас у нашыя крамы з Беластока прыносяць вялізныя страты мяса і грошай.

Пачатак на стар. 1

## РЫХТУЕМСЯ ДА VII З'ЕЗДУ

— Непасрэдным арганізатарам конкурсаў былі аддзелы, — сказаў ён. — Праявілі яны ў гэтым годзе значна большую актыўнасць, сведчаннем таго — 55 фіналістаў конкурсу «Беларуская песня — 71». Наогул у аддзелах у гэтым конкурсе прыняло ўдзел 70 асоб. Найлепш правёў конкурс беластоцкі — павятовы і мілейчыцкі аддзелы. Тут было найбольш удзельнікаў і найлепшая арганізацыя публікі. Гайнаўскі, варшаўскі і сакольскі аддзелы не праводзілі элімінацый, а толькі высылалі ўдзельнікаў на цэнтральны агляд. Падобная з'ява выступіла і ў тэатральным конкурсе. Агляды адбыліся ў бельскім, беластоцкім — павятовым і сямяціцкім аддзелах. У гэтых аддзелах удзельнічала ў конкурсе па 3—4 калектывы. Найбольшых дасягненняў у гэтай галіне дабіўся бельскі аддзел. Але заслуга тут, перш за ўсё, адданых энтузіястаў вясковай самадзейнасці — настаўніцы з Паўлаў Валі Амельянюк і Валі Андрэюк з Рыбалаў. Зрэшты, у Бельскім павеце ёсць і іншыя добрыя калектывы (Локніца і Мокрэ). Шкада, што не адбыліся агляды ў гайнаўскім і сакольскім аддзелах. Мелі яны ў мінулым годзе некалькі даволі добрых драмгурткоў. Нашы некаторыя самадзейнікі выявілі высокі ўзровень выканаўства — гэта сапраўдныя народныя таленты — і трэба імі асабліва апекавацца.

Новай і вельмі каштоўнай ініцыятывай быў паспяхова праведзены ў гэтым годзе (упершыню) школьны конкурс «Беларуская песня — 71». У цэнтральным аглядзе ў Гайнаўцы ўдзельнічалі 73 вучні з розных паветаў ваяводства. Школьныя конкурсы — сачыстая глеба, на якой вырастуць будучыя ўдзельнікі конкурсаў для дарослых. Яны будуць гуртаваць моладзь вакол нашай арганізацыі, будуць узбуджаць імкненне пазнаць родную песню.

Літаратурны конкурс не споўніў жаданых надзей. На конкурс было прыслана толькі 5 твораў.

У дыскусіі на нарадзе выступілі: А. Іванюк, В. Леўчук, М. Матэйчук, В. Рудчык і Л. Бялецкая. Канцэнтравалі яны сваю ўвагу перш за ўсё на арганізацыйных справах і рэпертуары. Важнае месца ў дыскусіі заняло пытанне дапамогі аддзелам і гурткам метадычным матэрыялам. Падсумаваў дыскусію сакратар ГП Я. Зенюк. (рл)

## «БЕЛАЯ НЯДЗЕЛЯ» Ў СЛАБОДЦЫ І Ў ЛУЦЭ

Цікавае мерапрыемства правялі работнікі хуткай дапамогі ў Гайнаўцы. Арганізавалі яны ў канцы красавіка г.г. так званую «белую нядзелю» ў двух найдалейшых ад пунктаў аховы здароўя вёсках — у Слабодцы і ў Луцэ. У «белай нядзелі» прымалі ўдзел лекары Люцыян Рачкоўскі, Мікалай Швед, Зіна Шыманская і Ідалія Станішэўская, а таксама медсёстры Галена Немаеўская, Данута Купецкая, Зіна Вешхоўская і Казіміра Копэць.

Найбольш пацыентаў мелі педыятр, інтэрніст і стаматолаг. Агулам з лекарскай дапамогі скарыстала больш 200 асоб.

За лекарскай парадай прыходзілі жыхары не толькі са Слабодкі і Лукі, але і з навакольных вёсак.

Варта адзначыць і вялікую дапамогу лекарскім экіпажам з боку старшыні ГРН у Семянойцы, мясцовых солтысаў і радных.

« Белая нядзеля» была адным з абавязацельстваў гайнаўскіх лекараў і медсясцёр у гонар Першамайскага свята. Іх пачын з'яўляецца не толькі вельмі карысны, але і высока гуманітарнай справай. (яц)

## ВУЧНІ САДЗЯЦЬ ЛЕС

Збор вучняў перад вырушэннем на пасадку.

Вучні старэйшых класаў (больш 100 асоб) пачатковай школы ў Старым Ляўкове, Гайнаўскага павета, садзілі лес у Ляцкай пушчы. Засадзілі яны саджанцы елкі і дуба 1,5-гектаровую плошчу пасля вырубкі лесу. Варта адзначыць, што частку грошай, якія атрымаюць за пасадку лесу, вучні перакажуць на пабудову цэнтра аховы здароўя дзіцяці.

Тэкст і фота: (яц)

Вучні VII класа садзяць лес.

## Ці ведаеце, што...

*...фабрыка дамоў, якая будуецца зараз у Беластоку, будзе прадукаваць на працягу года элементы, з якіх можна будзе пабудаваць 6 тысяч пакояў у год. З некаторых прэфабрыкатаў будуць будавацца двухсямейныя дамы. Мантаж такога дома працягваўся 6 усяго... тыдзень.* (яц)

Беларуская літаратура

Аляксандр Баршчэўскі

## ПЕРЫЯД ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

### ЛЕТАПІСЫ, ЧАСТКА II. ЛЕТАПІСЕЦ ВЯЛІКІХ КНЯЗЁЎ ЛІТОЎСКІХ

Твор, які сёння хочам прадставіць чытачам, належыць да так званага кароткага летапіснага зводу. Паказвае ён падзеі Вялікага княства Літоўскага на працягу стагоддзя. Ці гэты летапіс напісаны адным аўтарам? Праўдападобна, не. Твор і па стылю і спосабу характарыстыкі дзеліцца як быццам бы на некалькі частак. Да асноўнага летапісу далучаны самастойны твор — повесць пра Падолле, у якой вядзецца апавяданне аб далучэнні часткі украінскіх земель да Вялікага княства Літоўскага.

Нельга аднак сумнявацца, што галоўная частка летапісу, у якой расказваецца аб Ягайле і Вітаўце, напісана адным чалавекам. Савецкі даследчык В. Чамярыцкі характарызуе беларускага летапісца наступным чынам: «Добрая дасведчанасць аўтара пры апісанні перыпетый барацьбы Кейстута з Ягайлам, веданне ім многіх падрабязнасцей падзей, у якіх удзельнічаў Вітаўт, гаворыць пра тое, што гэты помнік узнік у асяроддзі, вельмі блізкім да вялікага літоўскага князя, і напісан чалавекам свецкім, магчыма, адным з найбольш адукаваных пісцоў віленскай вялікакняскай канцылярыі. У яго асобе мы маем таленавітага кніжніка, чалавека шырокіх поглядаў, тонкага палітыка і дыпламата» (Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры, Мінск 1968 г. т. І. с. 115).

Летапіс пачынаецца звесткамі аб Гедыміне, які меў сем сыноў, паміж якімі раздзяляў гарады і землі княства. Далей аўтар паведамляе пра віцебскага князя Кейстута і яго сына Вітаўта, а таксама пра віленскага князя Альгерда і яго сына Ягайлу. Гэтая інфармацыя мае ў летапісе карэннае значэнне. З яе пачынаецца інтрыга і напружаны ход падзей. Кейстут імкнуўся да навязання добрасуседскіх адносін з Ягайлам. Аднак Ягайла адзначаўся выключна адмоўнымі рысамі характару і галоўным яго імкненнем было знішчэнне суседніх княстваў. Распачаў ён вайну з Кейстутам і яго сынам Вітаўтам. У апошнюю хвіліну перад рашаючай бітвай Ягайла заманьвае Кейстута і Вітаўта ў лагер свайго войска, быццам бы на перагаворы. Арыштаваных князёў Ягайла пасадзіў у астрог у Крэве. У астрозе па загаду Ягайлы быў задушаны Кейстут, Вітаўту ўдалося ўцячы. Пабег з астрога прадстаўлены маляўніча. Паводле летапісца, астрог, у якім сядзеў Вітаўт, быў абстаўлены моцнай аховай. Прыйшлося кіравацца хітрасцю. Да Вітаўта прыходзілі штодзень дзве жанчыны, каб уладжваць князя да сну. Вітаўт скарыстаў гэтую сітуацыю. Пераапрануўся ў жаночыя «порты» і выйшаў з астрога ў жаночай вопратцы з адной жанчынай, другая жанчына засталася ў астрозе. Пакінуўшы турму, Вітаўт «уцёк з горада ў Немцы і ў Прусы».

У далейшай частцы твора аўтар прадстаўляе хрышчэнне Ягайлы паводле лацінскага абрада і яго шлюб з польскай каралеўнай Ядвігай. Аўтар не хавае сваёй варожасці да Ягайлы. Для аўтара Ягайла з'яўляецца чалавекам крывадушлівым, чалавекам з вялікай прагай улады, чалавекам са схільнасцю да рэнегацтва. Пры гэтым заўважаюцца поўная адданасць, а нават культ, адносіны аўтара да Вітаўта, які быў для летапісца сімвалам вернасці сваёй зямлі і дзяржаве.

Галоўная плынь летапісу, на якую складаюцца падзеі, звязаныя з адносінамі паміж Ягайлам і Вітаўтам, час ад часу ўступае месца іншым падзеям і іншым героям. І так, летапісец досыць падрабязна расказвае аб нападзе на Вялікае княства Літоўскае полацкага князя Андрэя з немцамі і латышамі. Аўтар апісвае таксама два набегі на княства з боку князя Святаслава Смаленскага. Летапісец рашуча асуджае князёў Андрэя і Святаслава, прыпісвае ім розныя злачынствы, зверствы і здзекі.

Гэта аднак толькі эпізод. Аўтар зноў вяртаецца да любімага князя Вітаўта, якому ўдалося вярнуцца ў Літву, уладкаваць адносіны з Ягайлам, які стаў каралём Польшчы, і атрымаць з яго рук у 1392 годзе Вялікае княства Літоўскае. Ваюючы з многімі суседнімі князямі і з татарамі, Вітаўт уладкаваў справы з Маскоўскай Руссю, выдаючы сваю дачку замуж за князя Васіля Дзмітравіча.

Адным з найбольш маляўнічых эпізодаў хронікі з'яўляецца апісанне з'езду каралёў і князёў з нагоды каранацыі Вітаўта. Аўтар гаворыць, што прыехалі на Вітаўтаў двор і маскоўскі князь, і польскі кароль, і князь тверскі, і прадстаўнік крыжаносцаў, і пасланцы рымскага папы, і дацкага караля. Ці можам аднак верыць аўтару, калі ён падае лічбы, звязаныя з утрыманнем і харчаваннем усіх гасцей? Паслухайма летапісца: «Былі ў вялікага князя Вітаўта сем нядзель на яго страве. А на дзень выходзіў ім

I так па чарзе выходзілі на трыбуну актывісты — члены партыі гайнаўскай вёскі. Гаварылі аб жывёлагадоўлі і аб тым, што рабіць, каб хутчэй развівалася сельская гаспадарка ў вёсцы ці ў грамадзе.

Вось на трыбуну ўваходзіць старэйшы чалавек, селянін, солтыс з вёскі Пагрэбы Ян Пракапчук. Ён пачаў сваё выступленне ад выяснення, якое вялікае значэнне мае добрая арганізацыя працы ў хляве і кароўніку, хоць сяляне наогул яе не даацэньваюць. Але для павелічэння прадукцыйнасці працы, на яго думку, патрэбна яшчэ адна важная рэч:

— Для кожнай працы патрэбны адпаведны клімат, спакой, задавальненне тым, што робіцца. Такі клімат патрэбны таксама селяніну. Калі ніхто не нервуе, калі ён сустракаецца з паважаннем, працуе ахвотна і не шкадуе сваіх сіл. А нас, сялян, нервуе асабліва шмат рэчаў. Нервуюць нас нявётлівыя ўраднікі, чэргі ля складаў на скупах, беганне шмат разоў да машыннай базы, пакуль пан трактарыст згодзіцца прыехаць, нервуюць нас адносіны паміж людзьмі ў вёсцы і ў краіне. Увесь час напружаны настолькі нервы, што чалавек адчувае сябе хворым, рукі ў яго апускаюцца.

Варта над гэтым задумацца.

*Кастусь Ляшчынскі*

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Ці можа непаўналетні выступаць у судзе самастойна, ці мусяць за яго выступаць бацькі?

АДКАЗ:

Непаўналетнім лічыцца ў нас той, каму не споўнілася 18 год. Наша грамадзянскае права адрознівае непаўналетніх, якім споўнілася 13 год, ад тых, якія не дайшлі яшчэ да гэтага веку. Непаўналетні, якому не споўнілася 13 год, у ніякіх справах выступаць у судзе не можа. Яго ў судзе могуць прадстаўляць бацькі або апякун.

Асоба, якой споўнілася 13 год, можа выступаць у судзе самастойна ў тых справах, у якіх яна самастойна можа распараджацца сваімі правамі, г.зн. у выпадках, якія адносяцца да дробных штодзённых спраў. Яна можа без згоды бацькоў і апекуна распараджацца сваім заробкам. Калі яна атрымоўвае ад бацькоў прадметы да свабоднага ўжытку, яна можа заключаць дагаворы адносна гэтага прадмета і выступаць самастойна ў судзе ў справах, якія датычаць гэтага прадмета. У іншых выпадках непаўналетні можа заключаць дагавор толькі за згодай бацькоў або апекуна, а ў справах судовых, якія адносяцца да маёмасных праў, яго ў судзе мусяць прадстаўляць бацькі або апякун.



аброк па пяцьсот бочак мёду, па пяцьсот ялавіц, па пяцьсот бараноў, па пяцьсот вяпрукоў, і па сто зуброў, па сто ласёў, а іншым рэчам лічбы няма».

Вядома, што нашы продкі былі вялікімі абжорамі, але цяжка ўявіць сабе, каб кожны дзень з'ядалі яны «па пяцьсот». Зрэшты, не ведаем колькасці Вітаўтавых гасцей, ад гэтага ж таксама залежыць колькасць з'едзеных харчоў. У форме дыгрэсіі можам дадаць, што вядомы сучасны польскі гісторык Багдан Бараноўскі сцвярджае, што ў сярэдневякоўі на нашых землях дарослы вяпрук у сярэднім важыў усяго 20-25 кілаграмаў. З гэтага вынікала б, што з «пяцісот вяпрукоў» атрымалася не вельмі многа чыстага мяса. Ну, але зубры ці лосі былі, мабыць, не горшымі, чым сёння і таму інфармацыю аб колькасці звярыны, з'едзенай у кожны дзень гасцявання ў Вітаўта, трэба прымаць крытычна. Зрэшты, крытыцызм патрабуецца і ў адносінах да некаторых іншых сцверджанняў у летапісе. Нямала ў ім блытанага і недакладнага. Гэта аднак не перакрэслівае грамаднага значэння летапісу, як верагоднай крыніцы для гісторыі Беларусі, Літвы і Украіны, Польшчы і Маскоўскай Русі. Дык нічога дзіўнага, што гісторыкі ўсіх славянскіх і іншых народаў часта адклікаюцца да гэтага гістарычнага беларускага твора.




Павятовая арганізацыя Саюза польскіх гарцэраў (ЗГП) у Гайнаўцы налічвае 2145 гарцэраў, згуртаваных у 62 атрадах, і 1565 зухаў, аб'яднаных у 71 атрадзе, а таксама 80 асоб, аб'яднаных у так званых спецыялістычных гуртках МКІ (маладзёжныя інструктарскія гурткі). У мінулым годзе ўсе гарцэрскія звенні на Гайнаўшчыне рэалізавалі заданні, вынікаючыя са шматлікіх кампаній, як «Улюбёная краіна», «Іскра — 70» (прысвечанай 100-ай гадавіне з дня нараджэння У. І. Леніна). «Мой пасёлак, вёска і панадворак — гэта таксама часцінка Айчыны», «Аберагаем здабычы нашых бацькоў», «Гаспадарым мудра, ашчадна і салідна», 25-годдзе Перамогі над гітлераўскім фашызмам, 25-годдзе Народнай Польшчы на вернутых землях і г.д. Прымалі яны ўдзел у згадуй-згадулях і конкурсах, арганізаваных з нагоды 25-годдзя ПНР пад загалоўкам «Усё ведаю аб Табе, дарагая краіна». У цэлым павеце шырока разгарнулася акцыя нялагернага лета. Дзейнічала 118 груп з колькасцю 1200 асоб. Найлепш працуючымі групамі аказаліся групы ў Чаромусе-асадзе, у Койлах. у Дашах, у Махнатым, у Моры, у Старым Ляўкове, у Барысаўцы, у Старакорніне, у Ляневе і ў Вітаве.

Значных поспехаў у працы дабіліся гарцэрскія атрады ў Койлах і ў Барысаўцы. У апошні час атрад з Койлаў наладзіў супрацоўніцтва з мясцовым гуртком ЗМВ. Члены койлаўскага гуртка ЗМВ дапамаглі гарцэрам арганізаваць кулік, а нават забяспечылі іх сродкамі транспарту. Гарцэры ахвотна дапамагаюць зухам. Арганізавалі яны сярод іх конкурс «Мая вёска праз 10 гадоў». Пераможцам конкурсу ўручылі яны ўзнагароды. Гарцэрскі атрад у Барысаўцы арганізаваў у сябе, між іншым, кулік па Белавежскай пушчы, а таксама турнір ведаў аб Польшчы і сучасным свеце. Зрабілі яны альбом выдатных вучоных. Апрача таго, гарцэры з Барысаўкі прыйшлі з дапамогай адзінокай бабульцы Яўфеніі Кот — Янюк. Прыносяць яны ёй ваду і дровы, а таксама прыбіраюць кватэру. Варта адзначыць, што гайнаўская Камэнда гуфца ЗГП супрацоўнічае з жыллёвым кааператывам (спулдзельняй мешканёвай). Нядаўна абедзве гэтыя ўстановы падпісалі пагадненне наконт гарцэрскай дапамогі і ажыўлення дзейнасці кааператыўскай святліцы. Гарцэры ахвотна заапекаваліся святліцай. Зараз арганізаваны тут гарцэрскі і зухавы атрады. Камэнда гуфца ЗГП перадала святліцы пінгпонгавы столік. Інструктары з МК супольна з гарцэрамі зрабілі дэкарацыі і арганізавалі бібліятэчны пункт пры святліцы. У апошні час робяць яны спробы арганізаваць мастацкі гурток. У святліцы будуць яны арганізаваць розныя настольныя ігры, танцы, конкурсы, сустрэчы з цікавымі людзьмі, сходы і г.д. Улетку намераны яны арганізаваць экскурсіі, турысцкія паходы, бівакі, а таксама грамадскія чыны пры пабудове спартыўных пляцовак і пляцаў да дзіцячых гульняў, пры пасадцы дрэўцаў, кветак і г.д.

*Янка Цялушэцкі*



*На занятках у Тэхнікуме сельскагаспадарчага рахункаводства ў Бельску.*

*Фота Цаф — Сянько*

*Адрэж па лініі, назначанай пункцірам, зрабі дзіркі ў месцы, вызначаным кружкамі і нанізвай старонкі на дроцікі або шнурочак.*

## ● БІБЛІЯТЭЧКА „Нівы" ● ВАСІЛЬ БЫКАЎ ● ПРАКЛЯТАЯ ВЫШЫНЯ ●

21.

Санінструктар аб чымсь запытаў, але я недачуў, бо стаяў да яго глухім вухам.

— Аглух, ці што? — крыкнуў ён дужэй. — Куды цябе?

— Ды во — у плячо.

— Сядай.

Я паслухмяна сеў на край скрынкі. Цвяткоў скінуў з сябе мокрую, страшэнна шархоткую палатку і дастаў з ножнаў на дзязе разведчыцкі нож.

— Ты што — рэзаць?

— А што ж яшчэ?

— Здзену як-небудзь.

Не без яго дапамогі я распаразаўся, зняў сумку з магазінамі, палявушку-кірзоўку і аднаруч расшпіліў свой зялёны англійскі шынель. Але потым стала так балюча, што аж памутнела ўваччу, і я думаў — сканаю, пакуль ён здзёр з мяне гэты мокры, у некалькі месцах прабіты шынэлак. Рукаў гімнасцёркі быў рассечаны асколкам ніжэй ад пагона і скрываўлены аж да манжэты. Тут ужо я не рызыкаваў пярэчыць, і Цвяткоў спрактыкавана распаласаваў яго зверху данізу. Я толькі адвярнуў галаў.

— Так, так, — няпэўна сказаў ён, мацаючы рану. — Касацельнае асколачнае. Два тыдні санбату.

Толькі ўсяго! Гэтае вызначэнне здалося мне занадта аптымістычным. Праўда, я ведаў, што медыкі заўжды суцяшаюць параненых, нават і тады, калі тыя дыхаюць на ладан. Аднак цяпер, здаецца, Цвяткоў не хітрыў — у мяне ж увесь час было такое ўражанне, што рука прапала.

— А косць як? Цэлая?

— Абсалютна, Васюкоў.

Цвяткоў, прыслухоўваючыся да гукаў наверсе, дастаў з сумкі шырокі скрутак бінта і туга абматаў мне плячо. Затым ватай збольшага выцер кроў на руцэ і прыладзіў для яе почапку на шыю.

— Не раненне, а ўкус камара. Першы раз?

— Першы, — сказаў я.

— Гэта, можна сказаць, пуцёўка на адпачынак. Гарантыя на два тыдні жыцця.

Я, аднак, не адчуваў ад гэтай гарантыі вялікае радасці — рана балела ўсё болей, нешта нядобрае, узрушана-трывожлівае тачыла маё адчуванне. Па даўняй франтавой звычцы нейкая частка маёй увагі ўвесь час была звернута на тое, што чулася зверху, аслабелы слых лавіў кожны гук адтуль, ад немцаў. Чэргі на тым схіле, здаецца, прыціхалі, бой змаўкаў. З траншэі сюды часам прарываліся стрыманыя галасы аўтаматчыкаў, пранікаў сцішаны шоргат рыдлёвак. І раптам між іх пачуўся кароценькі сабачы віск. Цвяткоў, які ўжо збіраў у сумку сваё медыцынскае начынне, здзіўлена варухнуў бровамі.

— Глядзі, і Пулька тут!

Калі тут Пулька, падумаў я, значыцца, недзе паблізу павінен быць і Ванін, якога я так і не бачыў пасля яго нага адчайнага скачка ў траншэю. Неўзабаве, аднак,

23.

паспеў згледзець, што там здарылася, як Цвяткоў узмахнуў над галавой бінтом і адскочыў назад, моцна штурхануўшы Піліпенку. Абое яны стукнуліся аб сцяну зямлянкі, зачапіўшы Ваніна, які, аднак, нават не зрушыў з месца.

— От гад!

— Дай ёму, падле!

Не дужа зграбна Піліпенка ўскочыў на ногі, некуды матлянуўся Цвяткоў. Плошка на сцяне ледзьве не захліпнулася, агняны яе язычок роспачна заматляўся ў кароннай баначцы. Апантана залемантаваў Пулька. Аднак немец не збіраўся ні біцца, ні ўцякаць, здаровай нагой ён бараніўся ад сабачкі. Я бачыў яго перакошаны ўсё той жа грымасай твар і сцятыя кулакі, ён упёрся спіной у сцяну, трымаючы напагатове абутую ў бот нагу.

— Сука! — крыкнуў Цвяткоў ужо з маім аўтаматам у руках.

— Тыркні ты ёму! Шо з ім важдатыся! — крычаў Піліпенка.

— Спакойна! — сказаў Ванін і стаў паміж імі і немцам. Звыклым рухам рукі ён паправіў на сабе тоненькую планшэтку. — Спакойна, фрыц. Хочаш здохнуць — нічога не выйдзе. Цвяткоў, бяры бінт!

Рашуча сігануўшы, Ванін наваліўся на немца, згроб яго, перавярнуў і прыціснуў тварам уніз. Немец задрыгаў нагой у боце, пракапаў зямляную баразну ў доле і сціх.

— Перавязвай!

— Я? — амаль спалохана здзівіўся Цвяткоў.

— Ты, а хто ж! — ускіпеў Ванін, ашчаперваючы немца.

З прыкметнай нерашучасцю падступіўшыся да яго, Цвяткоў здзёр з параненай немцавай нагі скрываўленую шкарпэтку і таропка абматаў лытку бінтом.

— Ось так! — сказаў Ванін, устаючы на ногі. Немец ваўкавата і моўчкі сеў, забіўшыся далей у кут.

У бліндажы не мог супакоіцца Піліпенка.

— Шчо вам утэмяшылася ёго перэвязуваты? Бінта тількі попсувалы, а свайму Івану не хопіць! Тыркнуць ёго і ўсэ! — махаў ён рукой. Ванін, не паднімаючы позірку, сказаў:

— Вы б менш балбаталі, старшына!

— А шчо, нэ правда? Пэрэвязуваты ёго! Можа шчэ тушонкой корміты будэтэ?

На момант затрымаўшы на старшыне клапотны позірк, Ванін уздыхнуў.

— Мы за ім ледзь не да станцыі беглі. Ён у мяне ўвесь парабелум разрадзіў. А вы — тыркнуць. Заўтра ў полк адправім.

— Нэ бачылы ў палку такэй гныды, — бурчаў трохі паспакайнелы Піліпенка. Цвяткоў, штосьць затаіўшы ў сабе, маўчаў. Малодшы лейтэнант падняў з-пад ног стаптаную шапку.

# ТРЫБУНА чытачоў

### КОНКУРС ПАСАДКІ ДРЭЎ

Павятовае праўленне Саюза вясковай моладзі ў Беластоку разам з павятовым праўленнем сельскай гаспадаркі аб'явілі конкурс на найлепш азяляненую вёску 1971 года. У сувязі з гэтым ад 13 красавіка гурткі ЗМВ спаборнічаюць у пасадцы дэкаратыўных дрэў, такіх, як тапол, акацыі, ліпы і іншыя.

Да конкурсу прыступіла 40 гурткоў ЗМВ і 10 пачатковых школ. Давезена ім амаль 15 тысяч дрэўцаў і 7 тысяч кустоў. Гурткі ЗМВ у грамадах Гарадок і Заблудаў пасадзілі да 1-га мая каля 8 тысяч дрэвак і 5 тысяч кустоў.

*Рыгор Лісавец, Скрабляккі*

### ПАДРЫХТОЎВАЕ П'ЕСЫ

Старэйшы чалавек Іван Мікуць з Паўночнага Вострава падрыхтоўвае з моладдзю беларускія п'есы. Нават аб гэтым не ведае сакольскі аддзел. Мікуць, нікому нічога не кажучы, бярэцца да працы з моладдзю. Чалавек гэты здольны не толькі да вядзення драмгурткоў. Пры савецкай уладзе ў 1940 годзе Іван Мікуць жыў у Коматаўцах (Беластоцкі павет) і арганізаваў маладзёжны хор вёскі. На аглядзе мастацкіх калектываў у Гродне коматаўскі хор запрэзентаваў высокі мастацкі ўзровень. (хм)

*Весткі з Крывяціч*

### ДРЭНАЖ І ЯГО ЭФЕКТЫ

Пару год таму назад ў Крывяцічах правялі меліярацыю і дрэнаж сялянскіх палёў. Аб вартасці дрэнажу сяляне пачаткова не ведалі. Але калі прыходзяць вясновыя работы і на палях яшчэ многа вады, дык на крывяціцкіх палях вада знікае значна хутчэй. Ураджаі таксама значна павялічыліся.

### УВАГА, НЕБЯСПЕКА!

Улады ГРН у Орлі зрабілі ў грамадзе грамаадводы, якія забяспечваюць будынкі ад пажару. Але вось, як сцвярджаюць многія ў Крывяцічах, грамаадводы парваныя, знішчана інсталяцыя. Варта, каб улады ГРН у Орлі за адплатай правялі рамонт сапсаваных грамаадводаў. У летнюю пару, замест забяспечыць, грамаадводы могуць выклікаць пажар.

*Ваня Кірызюк, Крывяцічы*

### СВЯТКАВАННЕ ПЕРШАМАЯ

26 красавіка г.г. у святліцы ў Чыжах адбылася акадэмія, прысвечаная 1 Мая. На акадэмію прыбылі кіраўнік павятовага цэнтра партыйнай прапаганды тав. Эдвард Масота і прэзас ГС тав. Уладзімір Кардаш. Даклад прачытаў сакратар ГК ПАРП таварыш Юры Койла. Затым адбылася мастацкая частка ў выкананні вучняў чыжоўскай школы. Пасля мастацкай часткі быў паказаны фільм.

*В. С., Чыжы*

* ❊ *

24 красавіка 1971 года ў Дубічах Царкоўных вечарам у святліцы адбылася ўрачыстая акадэмія, прысвечаная святкаванню 1 Мая. Даклад прачытаў Яўген Панфілюк (працаўнік ГРН). У мастацкай частцы выступілі школьнікі са школ у Дубічах Царкоўных і Грабаўцу. У праграме былі вершы, песні і лірычныя маналогі.

Трэба адзначыць і тое, што святліца ў гэты дзень была святочна ўпрыгожана. Задбалі аб гэтым светліцовая Насця Панфілюк і моладзь з БГКТ і ЗМВ.

*В. Бура*

* ❊ *

Акадэмія ў нас адбылася 29-га красавіка ў святліцы чыгуначнай станцыі ў Нараўцы. Адкрыў яе А. Конрад, а з дакладам выступіў А. Касько. Мастацкую частку падрыхтавала падставовая школа з Нараўкі. Выступіў саракаасабовы школьны хор і дэкламатарскі гурток. Многа апладысментаў атрымалі салісты: Барыс Савіцкі, Міраслава Кардаш, Ірэна Бяляўская, Марыся Смактуновіч, Вальдэмар Сікорскі і сёстры Анна і Галіна Дрозд. Падзяку самадзейнікам школы і іх кіраўнічцы злажыў Уладзімір Клімюк.

*Адам Цэха, Нараўка*

* ❊ *

28 красавіка г.г. у Гайнаўскім ліцэі адбылася ўрачыстая акадэмія, звязаная са святам 1-га Мая. Урачыстасць падрыхтаваў гурток ЗМВ, які існуе ў нашай школе. У пачатку яе старшыня школьнага гуртка Віталіс Янцэвіч пазнаёміў прысутных з планам урачыстасці. Потым Юра Нурак прачытаў даклад. Затым адбылася мастацкая частка. На канец урачыстасці быў паказаны савецкі фільм «Трайная праверка».

*Люба Ярашэвіч, бел. ліцэй у Гайнаўцы*

### СЕСІЯ ГРН

У красавіку адбылася сесія грамадскай рады нарадовай у Храбалах (Бельскі павет), прысвечаная абмяркоўцы справаздачы аб дзейнасці прэзідыума ГРН за 1970 год. У справаздачы гаварыцца, што адбылося ў мінулым годзе 9 сесій ГРН, на якіх разглядаліся ўсе справы, якія маюць істотнае значэнне для паасобных вёсак. Радныя на гэтых сесіях выступілі з 23 прапановамі, якія ў асноўным выкананы.

Многія радныя вельмі ахвярна працуюць, цікавяцца ўсімі хвалюючымі справамі жыхароў сваёй мясцовасці. Да такіх перадавых радных залічаюцца Міхась Коршак, Рыгор Радзівонюк. Васіль Барысюк, Раман Грынявіцкі і Язэп Жэпнеўскі.

Але ёсць і такія, якія не выконваюць сваіх ганаровых функцый, яны не прыходзяць на сесіі ГРН і не цікавяцца іх праблематыкай. Вось, напрыклад, Аляксей Харытанюк з Плёсак і Іван Амельянюк з Дзянісак у мінулым годзе не былі на 6-ці сесіях ГРН, а Вольга Карнілюк з Кназазоў прыняла ўдзел толькі адзін раз у працы сесіі.

*А. Трафімчук, Храбалы*




*Дарагое Сэрцайка!*

Два гады прайшло, як мы пасябравалі з Аняй. Аня жыве амаль па-суседску. Яна прыгожая, рослая дзяўчына. Мы думалі жаніцца. І я падабаўся Ані, бо яна толькі са мною хадзіла на забаву, толькі са мною танцавала. Мне дык і час ужо жаніцца, бо ў хаце толькі адна маці і я. Бацькі я ўжо даўно не маю, а старэйшая сястра выйшла нядаўна замуж. Маёй маці таксама Аня падабаецца, і яна хацела б, каб Аня стала яе нявесткай. Але нядаўна мы з Аняй паспрачаліся, ды так моцна, што я, забыўшыся на момант, ударыў Аню па твары. Яна заплакала і пабегла хутка дахаты. Я пайшоў дамоў. На другі дзень, а была нядзеля, я сустрэў Аню на вуліцы, сказаў ёй «добры дзень», але Аня нічога не адказала і пайшла сваёй дарогай. Так мы перасталі гаварыць і вітацца. На забаве таксама, як бы ніколі не зналіся. Так прайшло ўжо два месяцы. Але Аня мне надалей падабаецца. У апошні час яна пачала сябраваць з другім хлопцам з нашай вёскі і гавораць, што яны злажылі дакументы ў ЗАГС-е і чакаюць тэрміну шлюбу. Гэта мяне перапужала, бо я ніколі не думаў, што Аня можа выйсці замуж за каго-небудзь іншага, а толькі за мяне. Нядаўна я пры сустрэчы з Аняй загаварыў да яе, бо хацеў спытаць, ці гэта праўда, што людзі гавораць, але яна нават не глянула на мяне. Парай, Сэрцайка, што мне рабіць, як прымусіць Аню, каб яна загаварыла да мяне, тады мо і ўсё направіцца.

*Валодзя з Бельшчыны*

*Валодзя!* Прачытаўшы дакладна твой ліст, здаецца мне, што тут нічога ўжо не паможа. Аня спадабалася мне і то вельмі за сваю станоўчасць. Бо падумай толькі, як можна, якім правам ударыць дзяўчыну? Можна спрачацца, як гавораць, «дзе любяцца, там чубяцца», але нельга паступаць так, як паступіў ты. Нічога тады дзіўнага, што Аня пакінула цябе і выходзіць замуж за іншага. Вядома ж, калі ты пачынаеш біць нарачоную, тады не будзеш ашчаджаць, калі яна стане тваёй жонкай. Вось таму Аня і падумала сур'ёзна над сваёй будучыняй і пастанавіла выйсці замуж за іншага. Твой паступак, відаць, дапамог Ані пазбыцца пачуццяў, якімі Аня дарыла цябе. Бо калі б Аня яшчэ цябе кахала, напэўна б не выходзіла так хутка замуж. Лепш будзе аднак, калі ты ўвогуле перастанеш мяшацца ў справы Ані, бо думаю, што і так усё надарэмна. Гэта павінна стаць табе, а мо і іншым, навучкай, як паступаць з дзяўчатамі і... з жонкамі таксама!

*Сэрцайка*

### З'ЕЗД ЗМВ ГАЙНАЎШЧЫНЫ

Нядаўна ў Гайнаўцы адбыўся павятовы справаздачна-выбарны з'езд Саюза вясковай моладзі, які падсумаваў двухгадовы перыяд сваёй дзейнасці, намеціў заданні на наступную кадэнцыю і выбраў новыя ўлады ЗМВ.

А вось некаторыя даныя са справаздачнага даклада. 50 гурткоў Саюза вясковай моладзі на Гайнаўшчыне займаецца палітычнай адукацыяй. Да гэтага выкарыстоўваюць яны падручнік «У нашых очах», прэсу, грамадска-палітычную літаратуру, фільмы і дыяпазітывы.

У трох лектарскіх пунктах: Нараўцы, Старым Беразове і Плянце, — супольна з таварыствам паўсюдных ведаў былі арганізаваны заняткі ў рамах «Акцыя — моладзь». Члены ЗМВ прымалі таксама ўдзел у палітвучобе партыйных арганізацый ПАРП і ЗСЛь.

Вялікай папулярнасцю карыстаюцца сярод моладзі ЗМВ алімпіяды ведаў. У мінулым годзе ў алімпіядзе ведаў аб Польшчы і сучасным свеце ўдзельнічалі ўсе школьныя арганізацыі ЗМВ з колькасцю 649 вучняў. Асабліва добра былі падрыхтаваны да алімпіяды вучні ляснога тэхнікума ў Белавежы і засадніччыя сельскагаспадарчыя школы ў Нараўцы і Кляшчэлях. У пятай алімпіядзе грамадска-палітычных ведаў удзел прыняло 47 гурткоў з больш як 500 членамі.

На Гайнаўшчыне налічваецца 25 маладзёжных калектываў мастацкай самадзейнасці, у якіх прымаюць удзел члены Саюза вясковай моладзі. Вялікай папулярнасцю карыстаюцца тэатральныя калектывы з Дубіч, Белавежы і Семяноўкі, вакальныя — з Чэхаў Арлянскіх, Чыжоў, Дубін і музычныя — з ляснога тэхнікума ў Белавежы, з Кляшчэляў і Нарвы.

Саюз вясковай моладзі добра выхоўвае палітычна сваіх членаў. Найлепшых з іх пераказвае партыі. І так, на працягу мінулых двух год ЗМВ у Гайнаўскім павеце рэкамендавала ў рады ПАРП 47 сваіх членаў, а ў рады ЗСЛь — 31.

Нам прыемна сцвердзіць і той факт, што ў справаздачным дакладзе знайшліся наступныя сказы: «У культурна-асветнай працы ў вясковым асяроддзі нашым саюзнікам з'яўляецца БГКТ, з якім мы супольна арганізоўваем многа мерапрыемстваў для грамадства. Маторам усіх супольных пачынанняў з'яўляецца Віктар Бура (ён сакратар гайнаўскага аддзела БГКТ), які аддае шмат часу і намаганняў для падрыхтоўкі гэтых мерапрыемстваў. У апошні час супольна арганізавалі мы народныя фэстыны ў Дубічах Царкоўных, Палічнай, Семяноўцы, Ляўкове і Плянце. А з нагоды 100-ай гадавіны нараджэння У. І. Леніна супольна падрыхтавалі мы шмат акадэмій, дакладаў і аўтарскіх сустрэч. На Гайнаўшчыне амаль паўсюдна вядомыя такія беларускія пісьменнікі, як В. Швед, А. Барскі, Я. Чыквін і іншыя, якія толькі ў 1970 годзе мелі 36 спатканняў з насельніцтвам».

Варта таксама падкрэсліць той факт, што на гэтым з'ездзе наш штатны працаўнік Віктар Бура быў узнагароджаны Ганаровай Сярэбранай адзнакай ЗМВ. (мх)



*Камендант павятовага гарцэрскага гуфца Аляксей Харкевіч у размове са старшынёй павятовага праўлення Саюза сацыялістычнай моладзі Валяй Такаюк.*



*Удзельнікі з'езда падчас перапынку.*

*Фота — Віктар Бура*

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Samolot odlatuje o 9-ej" (radziecki), 25—26. „Mój pies Wulkan" (radz.), 27—28. „100 karabinów" (USA), 29—30.

**Нараўка**

„Białe słońce pustyni" (radz.), „Foto Haber" (węgierski), 26—30.

**Нарва**

„Siedemnasty równoleżnik" (franc.), „Uzurpatorzy" (węgierski), 26—30.

**Чыжы**

„Kobieta wąż" (ang.), „Na szlakach wojennych przygód" (czeski), 26—30.

**Дубічы Царкоўныя**

„Trzy godziny miłości" (jugosł.), „Lenin — karty życiorysu" (radziecki), 26—30.

**Арэшкава**

„Nikt nie rodzi się żołnierzem" (radz.), „Siódmy rok miłości" (NRD), 29—30.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Lecą żurawie" (radz.), „Pokój przychodzącemu na świat" (radziecki), 26—30.

**Орля**

„Co wieczór o 11-ej" (radz.), „Nie smuć się" (radz.), 26—30.

**Райск**

„Banda Asa Kier" (radz.), „Mąż swojej żony" (polski), 26—30.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Міхалова**

„Rozwodów nie będzie" (polski), 25—26. „Sobótki" (polski), 27—28. „Miraż" (USA), 29—30.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Zakochała się dziewczyna" (radz.), „Pogromca zwierząt" (rumuński), 26—30.

**Янаў**

„Lucia" (kubański), 26—30.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Spotkali się w pociągu" (radziecki), 25—26. „Popioły" (polski), 27—28. „Zdarzenie" (jugosł.), 29—30.

**Мельнік**

„Ostatnie wakacje" (radz.), 25—26. „Nad jeziorem" (radz.), 27—28. „Pułapka" (polski), 29—30.

**Мілейчыцы**

„Skarb bizantyjskiego kupca" (czeski), 25—26. „Przystanek komisariat" (węgierski), 27—28. „100 karabinów" (USA), 29—30.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Hrabina Cosel" (polski), „Panowie z kompleksami" (włoski), 26—30.

**Новы Двор**

„Taszkient miasto chleba", „Życie, miłość i śmierć" (franc.), 26—30.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wrzystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 7216 E-3

## ЗАДАЧА

Вучню трэцяга класа Колю Верабʼёву задалі нескладаную задачу: у адну трубу ўліваецца, у другую выліваецца, колькі трэба часу, каб басейн напоўніўся вадой?

Коля задачу рашыў хутка і папрасіў свайго тату, Верабʼёва Сямёна Пятровіча, праверыць.

Сямён Пятровіч узяў задачнік.

Якая агіднасць! — сказаў ён, прачытаўшы задачу.

— Што здарылася? — устрывожылася жонка.

— Ды вось, — паказаў Сямён Пятровіч на задачнік, — напаўняюць вадой басейн, а сцёкавая труба адкрыта!

— Сапраўды, жахліва, — уздыхнула жонка Верабʼёва, Зоя Васільеўна. — Колькі вады!

— Колькі лішняга часу! — Сямён Пятровіч узбуджана пачухаў патыліцу. — Навошта ім гэта? Розуму не прыкладу!

І ён зноў перачытаў задачу.

— Магчыма, я штосьці не разумею, — згадзіўся Сямён Пятровіч. — Але які сэнс?! Коля, — паклікаў ён сына, — скажы, ты ўсё ў гэтай задачы зразумеў?

— А што тут разумець? — буркнуў Коля. — У адну ўліваецца, у другую выліваецца.

— Але навошта ж? — Сямён Пятровіч выцер з ілба пот. — Навошта, запаўняючы басейн, адкрываць трубу?

Коля маўчаў.

— Але чаму, — мучыўся Сямён Пятровіч, — чаму? Магчыма, ім рабочых рук не хапае? Але тады далі б абʼяву ў газету, па радыё. А можа ў іх і пасады такой няма, — гадаў ён, — можа які-небудзь вартаўнік трубу закрывае? Яму — «Закрый трубу», а ён — «У мяне сваёй работы хапае!»

— А можа вартаўнік добры чалавек і заўсёды добрасумленна закрываў трубу, але цяпер ляжыць у бальніцы з абвастрэннем халецыстыту? — выказала меркаванне Зоя Васільеўна.

— Бывае, бывае, — згадзіўся з жонкай Сямён Пятровіч, — чалавек хварэе, а за трубой і паназіраць няма каму. Так, — задуменна прамовіў ён.

— Тата, хутка? — зачакаўся Коля.

— Чаго хутка? — не разумеючы, перапытаў Сямён Пятровіч.

— Праверыш, — спытаў Коля, — хутка?

— Ах, праверыць, — успомніў Сямён Пятровіч, — Ты вось што, ідзі пакуль пагуляй, а мы тут з маці яшчэ крыху пачытаем. Кніжка ў цябе ўжо вельмі цікавая!

І Верабʼёў Сямён Пятровіч пачаў чытаць наступную задачу.

*В. Колюшкін*

# НІЎКА

### Талаваломка

| | | | |
|---|---|---|---|
| 2 | 9 | 5 | 6 |
| 15 | 7 | 16 | 3 |
| 12 | 14 | 10 | 11 |
| 8 | 4 | 1 | 13 |

Простая лінія перасякае чатыры клеткі, сума лікаў якіх складае 33. Правядзіце яшчэ адну простую лінію праз клеткі, але так, каб сума лікаў у перакрэсленых клетках раўнялася 75.

*

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара: Белы мядзведзь, жырафа; страус, зубр, пінгвін і вавёрка.*



*Бобік захварэў.*

*Гумар з барадою*

### ХТО ЧЫМ ВЫЦІРАЕЦЦА

Гэта было за старых часоў. Зайшоў вандроўнік да бедных гаспадароў на ўскраіне вёскі, а там адзін хлопчык у хаце. Папрасіў ён у яго вады напіцца і з дарогі памыцца. Памыўся і просіць выцерціся, а хлопчык кажа:

— Няма чым...

— А чым жа выціраецеся?

— Бацька рукавом, маці палою, а я на пячы так сохну.



— 1, 2, 3, 4, 5... я іду шукаць.

*Кандрат Крапіва*

### НАЎЗДАГОН ЗА МОДАЮ

Нехта кажа, што я ў цэлым
Устарэў душой і целам:
Не прыстаў мне модны стыль,
І пара мяне ў утыль.

Хто ж дыктуе стыль той модны?
Ну вядома — «свет свабодны».
Хто не хіліцца да мод,
Той, як быццам, ідыёт.

Што ж рабіць мне — «ідыёту»?
Трэба брацца за работу,
Каб ніхто не мог пакпіць.
І работа ўжо кіпіць.

Каб трымаць на ўзроўні марку,
Грыву адпусціў на карку
Я з апошніх валасоў
На тарзанаўскі фасон.

Каб адсталым не памерці,
І ў мастацтве на тры чвэрці
Скінуў я стары свой груз,
Памяняў на модны густ.

Што мне Моцарты і Глінкі!
Я не бачу ў іх жывінкі,
І аддаў бы ўсіх зараз
За адзін сучасны джаз.

Як прыйшло ўжо да гаворкі,
Дык і Горкі мне — не Горкі,
І Някрасаў, і Талстой
Леў зусім ужо не той.

Я засунуў іх пад лаўку
І чытаю толькі Кафку,
А часцей яшчэ Камю,
Што падобны на Кюзьмю.

Для хутчэйшага прагрэсу
Узяўся я за антып'есу
І рубаю з-за пляча
Твор для антыглядача.

## У КІНАТЭАТРЫ

Калі ў кінатэатры закончыўся фільм і ў зале запалілася святло, жанчына ўбачыла мужчыну, які сядзеў перад ёй, і закрычала:

— Так гэта ты глядзіш за дзяцьмі, якіх я табе даручыла, калі пайшла наведаць сваю бедную хворую сястру!

### АБРАЗІЛА

Суседка па купэ гаворыць пажылой велічнай амерыканцы:

— Ваш хлопчык вядзе сябе вульгарна.

— Так?

— Ён жлокча віскі, курыць цыгару і валочыцца за праваднiцай.

— Нічога страшнага, хай крыху падурэе.

— Разумею, вы так гаворыце, напэўна, таму, што гэта ваш унук.

— Выбірайце выражэнні, васпані! Гэта мой муж.



### УМОВА

У цёмным кутку парка юнак нахіліўся да сваёй спадарожніцы, каб пацалаваць яе, але яна адштурхнула яго:

— Я не дапушчу да гэтага, пакуль не выйду замуж.

— Тады запішыце нумар майго тэлефона і дайце мне знаць, калі гэта здарыцца.

### КОЛЬКІ

Двое выйшлі з рэстарана.

— Ну і ночка сёння: два месяцы.

— Не два, а цэлых тры.

Яны паспрачаліся. Урэшце вырашылі разбудзіць чалавека які спаў на лаўчацы.

— Калега! Колькі, па-твойму, на небе месяцаў?

Незнаёмец працёр вочы і адказаў:

— Гэта гледзячы ў якім раду лічыць.

### ПРЫЗНАЙСЯ

— Скажыце, вы нікому яшчэ не чыталі сваіх вершаў?

— Нікому.

— А чаму ў вас падбітае вока?

### НА ВЫШЫНІ

— Ты ведаеш, Сідаровіча павысілі на рабоце. Цяпер ён на людзей глядзіць звысока.

— Дзе ж ён працуе?

— На парашутнай вежы.

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Надзі Асіпчук, Галіны Мікалаюк, Олі Шатыловіч і Ядвігі Маркевіч з Дашаў змяшчаем песню:

### *Cyganka*

**Muzyka: Henryk Blum**
**Słowa polskie : Agnieszka Osiecka**

**Odejdę, odfrunę, walizki spakuję — i już!**
**Tam ta ta ram itd.**
**Oto ja, cała ja!**
**Nie kupuj mi nic**
**nowego, drogiego, ważnego,**
**bo przecież ty wiesz —**
**tam ta ta ram itd.**
**potrwa to (dzień lub dwa)**
**dzień lub dwa**
**dzień lub dwa**

**Refren:**

**Nie dziw, że o mnie w miasteczku**
**złych plotek jest moc,**
**co mi tam —**
**Oczy mam czarne i włosy mam czarne jak noc,**
**Co mi tam!**
**Cyganka, Cyganka, tak mówią już o mnie na mieście**
**tam ta ta ram itd.**
**A ja nie wiem już,**
**jak to tam ze mną jest**
**Z Cyganką z Cyganką — panowie wy ślubu nie bierzcie!**
**tam ta ta ram itd.**
**na cóż wam taki gest, taki gest, taki gest...**
**Tak chciałabym dziś**
**zatęsknić, pokochać, polubić**
**na wieki, na mur!**
**Tam ta ta ram itd.**
**Oto ja, cała ja!**
**tak chciałabym dziś zaśpiewać, zapłakać**
**zanucić nie w moll tylko w dur...**
**tam ta ta ram itd.**
**A już po czterech dniach**
**wzywa mnie wielki świat!**

**Refren:**

**Nie dziw, że o mnie w miasteczku...**

### НЕ КЛЕІЦЦА

— Хлопцы, нешта работа ў вас не клеіцца, — заўважыў майстар.

— Фарба дрэнна сохне, дзень малюем, а два — сушым.

— Бачу, бачу, ужо дзве высушылі, — сказаў майстар, убачыўшы ў кутку дзве парожнія пляшкі.



## СПРАВА АБ ПАПУГАІ

Мадрыдскі суд прыгаварыў нейкага Фернандэса Гарсія да грашовага штрафу ў размеры 10 тысяч песет за тое, што той навучыў свайго папугая «крамольным словам». Акрамя таго, суд загадаў Гарсія ў шасцімесячны тэрмін адвучыць птушку ад гэтых слоў. Калі гэта не ўдасца, то папугай павінен быць забіты. Засцерагаючы сваіх чытачоў ад «неабдуманых выразаў у прысутнасці птушак, якія размаўляюць», мадрыдская газета «АВС» шчыра прызналася, што яна не адважваецца перадаць гэтыя «крамольныя словы», каб яе не напаткаў лёс папугая.

### НАВУКОВАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ПРАЦЫ

Па парадзе псіхолага-колеразнаўцы сцены калідораў адной рымскай установы пафарбаваны ў чорны колер. Цяпер служачыя не трацяць марна часу на пустасloўе ў калідорах, а сядзяць за сваімі сталамі ў светлых, прыемных воку кабінетах.

### ДУША І КАШАЛЁК

Нездаволены грашовымі ахвяраваннямі сваёй паствы, прападобны айцец Варну з французскага мястэчка Ларын-Сабр скончыў сваю пропаведзь так: «Хай словы мае не асядаюць у вашых вушах, а пранікаюць у розум і потым у душу, а адтуль нішто ўжо не перашкодзіць ім апусціцца яшчэ ніжэй — да самых кашалькоў вашых, жмінды!»

### ПА ГУСТУ МАЛПАМ

У заапарку канадскага горада Кэнары для гарылаў і арангутангаў арганізаваны паказ тэлевізійных перадач. Малпам асабліва па душы прыйшліся каўбойскія «баевікі».




*Стрымаць слова нялёгка. Асабліва кінутае на вецер.*